Унутры нумару: 1905 год у Крынках · Споведзь · Прадзецца Еўропа



# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 3 (464) | ГОД X | 17 СТУДЗЕНЯ 1965 Г. | ЦАНА 60 гр.




Мілейчыцы зімою
Фота Сяргей Крэйза

# ВАРШАВА
## 17.I.1945 - 17.I.1965



ЯН СПЕВАК

## ОДА ДА ВАРШАВЫ

Для цябе шумяц дрэвы ў няспаленым лесе,
На лесапілках п табелі дошчак смалістых,
Для цябе з гор каменне, і граніт, і мармур,
Для цябе Вісла коціць пясок залацісты.

Для цябе шуміць збожжа і родзіцца зерне,
Для цябе соль і вугаль, жалеза і вапна,
Для цябе нашы домны палаюць і граюць,
Для цябе варацъ сталь сталявары няспынна.

Для цябе нашы хуткія кросны працуюць,
Укладаюцца тонкія ніткі ў палотны,
Для цябе гарнякі дні праводзяць у шахтах,
Для цябе адкрываюць руду геолагі.

Для цябе караблі плывуць за акіяны,
Для цябе паравозы вядуць машыністы,
Архітэктар і муляр будуюць палацы,
Надаюць кожнай цэгле прыгожую стройнасць.

Для цябе гарады Лодзь, і Шчэцін, і Кракаў,
Вёска кожная дар свой найлепшы складаюць,
Для цябе і лясы, і лугі зеляненюць,
Для цябе шчэбет дзетак і матак усмешка.

Ты ж даеш ім запал і адвагу да дзеі,
Ты гартуеш іх працу, тварыць заклікаеш,
Ты жывеш ў кожнай норме і ў табелі кожным, —
Дзе ў спаборніцтве першы прыходзіць да мэты.

Пераклаў М. Машара

Інтэрв'ю Дваццаціголддзя

# ЧАЛАВЕК БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

ЯН КУЛЯШЭВІЧ з Беласточчынай звязаны ад дзяцінства. Вучыўся ў Беластоку ў сярэдняй педагагічнай школе. Ужо тады свой энтузіязм і любоў да музыкі выяўляў у грамадскай працы: вёў школьны аркестр і вакальны квартэт. Потым — Дзяржаўная Вышэйшая музычная школа ў Варшаве: найперш аддзел педагогікі, потым дырыгентуры хор-аркестравай і апошнія чатыры гады дырыгентура сімфоніка - оперная ў класе Богдана Вадзічкі — цяперашняга дырэктара Варшаўскай оперы. У час навукі працаваў з найлепшым студэнцкім калектывам песні і танца Варшаўскай Палітэхнікі.

Быў вядомы, як дасканалы музыкант, дырыжор і арганізатар. Мог выбіраць у Варшаве любое месца працы. Але прыехаў у Беласток. Быў студзень 1958 года.

**— І так, з музычнай сталіцы Вы папалі ў краіну, дзе пэўная музычная культура пачала пускаць парасткі толькі пасля вайны. Цікава ведаць, якія струны Вашай душы ў гэтым выпадку зайгралі?**

— Патрыятызм. Яшчэ ў час навукі ў Варшаве калегі, калі хацелі мне надакучыць, гаварылі, што на Беласточчыне ў галіне музыкі нічога не дзеецца. Існавала ў Беластоку група адданых людзей, якая займалася музыкай. На базе гэтай групы вырас потым наш аркестр, але тады называўся ён аб'яднаннем і працаваў у вельмі неспрыяльных умовах. Прыехала да мяне пані Раманоўская — у той час кіраўнік аддзела культуры ВРН — і прасіла заняцца беластоцкім аркестрам, абяцаючы дапамогу. І вось я ў Беластоку зноў. Аркестр не мае памяшкання, музыкантаў. Ніхто яго не слухае, ніхто не шануе. «Навошта вы рвеце нервы» — казалі і мне. Такі быў клімат. Я баяўся, што не вытрымаю. Але ўратаваў сорам перад калегамі, якім абяцаў, што нешта зраблю, амбіцыя, каб зрабіць, і энергія, энтузіязм, маладосць.

**— А далей?**

— Потым, як пасля буры, прыйшоў радасны спакой і засвяціла сонца для нашага аркестра. 1960 год. Ад 1 студзеня стаўся ён дзяржаўным. Цяпер наш аркестр заняў сваё пачэснае месца ў культурным жыцці Беласточчыны. Людзі набралі даверу да яго, фабрыкі і ўстановы просяць нас даць ім канцэрты. А 5 год таму? Гатовы былі заплаціць, каб мы толькі не прыходзілі. Да таго — мястэчкі і вёскі, у якіх мы даем 50% нашых канцэртаў. Сярэдняя колькасць слухачоў на кожным канцэрце ўсё расце. У 1964 годзе мелі — 412 асоб, а, напрыклад, у 1962 — 290. Як жа многа змянілася. Адкрыліся дзверы ў святыню культуры.

**— Як вы — аркестр адкрылі людзям дзверы ў святыню музыкі?**

— Мы заўсёды стараліся і стараемся не падводзіць нашага слухача. Кожнаму даем музыку добрую і цікавую. Наш рэпертуар такі, каб мог яго ўспрыняць масавы слухач, кожны. Таму многа месца займае ў нас лёгкая музыка, якая пракладае дарогу сур'ёзным творам. У нашых канцэртах прымаюць часта ўдзел вядомыя музыканты, спевакі і калектывы са сталіцы і іншых гарадоў Польшчы і гэта таксама прыцягвае людзей.

(Працяг на стар. 4)



ЯН КУЛЯШЭВІЧ — дырэктар, мастацкі кіраўнік і І-шы дырыжор Беластоцкага дзяржаўнага сімфанічнага аркестра.
Фота: І. Рыбінскі

 

# КРЫЗІС ЗОЛАТА НА ЗАХАДЗЕ

Мінулы тыдзень на Захадзе прайшоў пад знакам насіленых закупаў золата. Цана аднаго кілаграма золата павысілася, напрыклад, у Францыі да 5640 франкаў. Ніколі яшчэ пасля вайны золата не было такім дарагім. Пачатак узмацнення зацікаўленасці золатам выклікала пастанова англійскага ўрада аб павелічэнні падаткаў на імпарт, а затым рашэнне французскага ўрада аб вымене 150 мільёнаў долараў на золата. Гэта апошняе азначала на практыцы выкуп часткі золата з жалезных амерыканскіх рэзерваў. Сёння цяжка яшчэ прадбачыць, якія будуць канчатковыя вынікі крокаў розных капіталістычных урадаў адносна валюты і як яны адаб'юцца на курсе долара ці фунта.

Можна сфармулаваць некалькі прычын існуючага крызіса золата. Асноўная прычына — спадак вартасці амерышакнскага долара і змяншэнне рэзерваў у фёдэральным банку ЗША. Беспаваротна мінулі тыя часы, калі ЗША трымалі ў сябе амаль усё золата свету. Сёння рэзервы золата ЗША складаюць толькі нямногім больш 15 мільярдаў долараў. А мінімум рэзерваў у ЗША, устаноўлены пастановай, павінен быць 12 мільярдаў долараў. Цяпер становішча такое: калі б долары з банкаў Францыі, Заходняй Германіі, Італіі і Японіі былі накіраваны на вымену, дык ЗША не мелі б ужо ніякіх рэзерваў.

На дадатак у Злучаных Штатах з года ў год расце дэфіцыт платнічага балансу. Гэта значыць, што ЗША прадаюць для заграніцы менш, чым купляюць. Каб ліквідаваць дэфіцыт, Злучаныя Штаты вымушаны абмежаваць экспарт капіталу ў Заходнюю Еўропу і Лацінскую Амерыку або зменшыць ваенную дапамогу для заграніцы, якая паглынае паўтара мільярда долараў.

Калі ў першым выпадку можна яшчэ прыняць нейкае рашэнне, дык у другім выпадку хутчэй за ўсё — не, бо гэта магло б азначаць змену палітычнай канцэпцыі Вашынгтона. А тым часам не выглядае на тое, каб Злучаныя Штаты хацелі выйсці з бруднай вайны ў В'етнаме, перастаць падтрымліваць Чомбэ ці адмовіцца ад шматлікіх ваенных баз у розных частках свету. Пры такім становішчы рашэнне французскага ўрада аб вымене за два месяцы 300 мільёнаў долараў на золата выклікае вялікі непакой адносна валюты ў ЗША.

У такім жа небяспечным становішчы знаходзіцца і англійская валюта — фунт стэрлінгаў, якая нядаўна лічылася вельмі пэўным грашом.

Валютны крызіс — гэта адлюстраванне паглыбляючыхся палітычных і гаспадарчых супярэчнасцей удзельнікаў так званага «заходняга саюза». Францыя выразна зацікаўлена тым, каб зменшыць экспарт амерыканскага капіталу ў Заходнюю Еўропу і, як вынік гэтага, зменшыць дамінуючую ролю ЗША у гэтай часткі свету.

Парыжскі дзеннік «Ле Монд» не тоіць, што крокі французскага ўрада стануць прычынай «валютных непаладкаў». Варта яшчэ дадаць, што калі крызіс золата не выступае ў выглядзе раптоўнага выбуху, дык гэта вынік стрыманай і выразна праамерыканскай палітыкі ФРГ. У банках ФРГ ляжыць каля 7 мільярдаў долараў. Такім чынам у руках Заходняй Германіі сёння яшчэ знаходзіцца ключ да поўнага крызісу. Калі націск на долар і фунт зацягнецца, не верыцца, каб заходнегерманскія банкі адважыліся рызыкаваць страціць значную колькасць золата, перахоўваючы долары замест бліскучага металу.

Высакаразвітыя капіталістычныя краіны знаходзяцца, такім чынам, перад тварам сур'ёзнага спадку цаны долара, што, побач з палітычнымі момантамі, таксама выяўляе супярэчнасці, якія існуюць паміж гэтымі краінамі.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**

**Заходнегерманская ваеншчына высунула план стварэння атамнага міннага пояса ўздоўж граніц ФРГ з ГДР і Чэхаславакіяй. Грамадскасць ФРГ расцэньвае гэту прапанову як «план нацыянальнага самагубства».**

**(з газет)**




НА ПРЫМЕРЦЫ АТАМНАГА ПОЯСА
Малюнак Кукрыніксы



Пазнаем СВОЙ КРАЙ

Нейкіх 13 год таму разышлася вестка, што сталіца незадоўга ўзбагаціцца грамадным металургічным заводам. У Варшаве ўсякае здаралася. Калісьці адзін спрытны варшавянін прадаў амерыканскаму мільянеру помнік-калону караля Зыгмунта Старога, а другі варшавянін прагандляваў быў мост Кербедзя на Вісле. А вось гэтую вестку пра сапраўдны металургічны завод у Варшаве ўспрынялі неяк скептычна. У Хажове, Катовіцах, Бытаме, Сасноўцу, у Заверці — гэта так, зразумела, там жа амаль на месцы патрэбная сыравіна: жалезная руда і вугаль. А тут у Варшаве? Якім чынам? Кумачкі ў парках гаравалі: «То ж, мая даражэнькая, яны нам цалкам прычоскі попелам засыплюць».

Тым часам у Маскве савецкія спецыялісты галоўнага інстытута праектавання металургічных заводаў будавалі (пакуль што на паперы) польскай сталіцы грамаднае прадпрыемства цяжкага промыслу. Дапамагалі ім нашы польскія інжынеры-металургі.

Гэты прыгарад у Варшаве называецца **Млоціны,** а за Млоцінамі знаходзілася вёска **Ламянкі.** Жыхары вось гэтай вёскі першыя паверылі, што чутка пра металургічны завод як найбольш праўдзівая. Аднойчы аб'явілі ім, што на месцы іхняй вёскі будзе «гута». Вёску прышлося разабраць.

Па меры таго, як раслі грамадныя коміны і шматлікія будынкі, у Варшаву напłывала штораз больш новых вестак.



Вядома было, што варшаўская «гута» — не звычайны металургічны завод, а завод, які выпускаць мае самыя лепшыя, высакародныя сорты сталі.

# ВАРШАЎСКАЯ СТАЛЬ

Прадукцыю варшаўскі металургічны завод распачаў у 1959 годзе. 40 працэнт усяго абсталявання даставілі прадпрыемствы Савецкага Саюза. Знайшло тут працу і добры заработак многа тысяч чалавек. Цяпер з Варшавы ідзе ў свет адна трэцяя ўсёй гадавой прадукцыі лепшых сартоў сталі, якую выпускаюць металургічныя заводы нашай краіны. Ідзе ў свет у літаральным сэнсе гэтых слоў. Варшаўскую сталь купляюць амаль усе сацыялістычныя краіны, ідзе яна ў Данію, Фінляндыю, у Аравію і Сірыю.

Завод пастаянна разрастаецца, прыбываюць новыя цэхі, расце прадукцыя, з'яўляюцца новыя вырабы. Канкурэнцыя ў гэтай галіне на сусветным рынку вельмі вялікая.

Недалёка ад металургічнага завода вырас у Варшаве вялікі жылы квартал — Новыя Беляны. З'яўляецца ён адным з прыгажэйшых кварталаў сталіцы. Архітэктары, якія планавалі гэты квартал, былі адзначаны спецыяльнай узнагародай. Жывуць там, зразумела, рабочыя варшаўскага металургічнага завода.

Калі экскурсаводы будуць паказваць вам у Варшаве Палац культуры і навукі, усялякія музеі, Дом селяніна, Старое і Новае Мяста, падумайце, што за горадам, там, дзе калісьці была вёска Ламянкі, безупынннай ракой плыве цяпер высакародная варшаўская сталь.

**(вр)**

**Усім чытачам, карэспандэнтам і ўстановам, якія прыслалі нам навагоднія пажаданні, рэдакцыя «Нівы» складае шчырую падзяку.**

Наша акцыя

## КНІЖКІ ДЛЯ ДОМА КУЛЬТУРЫ ІМЯ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА Ў ГАРАДКУ

**Падарунак Ежы Латышонка з Эльблёнга**

А. А. Игнатьев — «Пятьдесят лет в строю» т. I i II; А. Кучар — «Над Дзвіной, Нямігай, Віліяй»; Е. Мозольков — Янка Купала; Я. Колас — «Рыбакова хата»; П. Панчанка — «Вершы і паэмы»; Е. Ф. Карский — «Труды по белорусскому и другим славянским языкам»; А. Письменный — «Приговор»; П. Сіліванчык, А. Петух — «З цемры да святла»; А. Смирнов — «Кастусь Калиновский»; Б. Курага-Скрага — «Восем год у нацыяналістычным балоце»; П. Броўка — «Збор твораў» т. I i II; Г. Лыньков — «Война в тылу врага»; Э. Самуйлёнак — «Будучыня»; Я. Брыль — «Мой родны кут»; Я. Васілёнак — «Прызванне»; M. Boncz-Brujewicz; G. Morcinek — «Mat Kurt Kraus»; A. Pereреczko — «Skośnoocy piraci»; W. Kietlińska — «Blokada»; G. Jarl — «W kuźni diabła»; M. Kieta — «Kryptonim T-4»; W. Choruża — «Listy z więzienia»; Notatki, Wspomnienia o Wierze;

## З РЭВАЛЮЦЫЙНАГА МІНУЛАГА БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# СТУДЗЕНЬСКІЯ ДНІ

**Крынкі. Невялікае мястэчка, загубленае сярод узгоркаў, палёў і пералескаў Сакольшчыны. Сёння яно ні то горад, ні то вёска — тыповая сядзіба грамадскай рады, ГС-у, некалькі крамаў... Жыхары яго хоць і ганарацца старадаўнімі правамі мяшчан, але аруць, сеюць, косяць на сваіх палетках, як іх суседзі — сяляне з навакольных вёсак. Аднак...**

**Так... У шасцідзесятую гадавіну да тых велічных падзей, якія адбыліся на гэтых заваленых снежнымі сумётамі вулачках, варта і трэба звярнуцца. І не толькі з мэтай адзначэння вялікай гадавіны, хоць і гэтае заданне мы таксама паставілі ў сённяшнім артыкуле. Звяртаемся да гераічных студзеньскіх дзён 1905 года ў Крынках яшчэ і таму, каб прыгадаць няўміручыя прыклады пралетарскай салідарнасці рабочых беларусаў, палякаў, яўрэяў, татар у іх сумеснай барацьбе супраць царызма і эксплуататараў, за свабоду.**

**Прыгадаем гістарычныя факты.**

**Мястэчка Крынкі ў пачатку XX стагоддзя налічвала звыш 6.000 жыхароў. Знаходзілася тут 11 большых і некалькі дзесяткаў малых гарбарняў, у якіх працавала звыш 1.200 рабочых. Умовы працы былі жудаснымі. Рабочыя былі вымушаны працаваць 14—16 гадзін у суткі ў страшэнным смуродзе, неабагрэтых будынках, без машын і прыладаў, якія б аблягчалі знясільваючую працу. Плацілі ім вельмі мала. У такіх умовах у асяроддзі гарбароў вялікай папулярнасцю цешылася рэдагаваная У. І. Леніным рэвалюцыйная газета «Іскра», якую ў Крынках распаўсюджвалі члены сацыял - дэмакратычнай групы з Гродна. У 1902—1903 гадах у Крынках пачала сваю дзейнасць Сацыял-Дэмакратычная партыя Каралеўства Польскага і Літвы, існавалі тут таксама і дзейнічалі групы яўрэйскай рэвалюцыйнай арганізацыі Бунд. Пад непасрэдным кіраўніцтвам гэтых арганізацый гарбары ўжо ў 1904 годзе пачалі барацьбу за скарачэнне рабочага дня, павышэнне заработкаў і паляпшэнне ўмоў працы. Аб гэтым сведчыць данясенне гродзенскага губернатара Асоргіна міністру спраў Расіі ад 18 лютага 1904 г.**

**«8 лютага г.г., вечарам, у лесе прыватнага маёнтку Крынкі, які знаходзіцца ў адлегласці 1,5 вярсты ад мястэчка з такой жа назвай, Гродзенскага ўезду, адбыўся сход рабочых крынкаўскіх гарбарняў, у якім, апрача іх (г.зн. — гарбароў-мужчын — МГ) прынялі ўдзел і рамесніцы-жанчыны і служанкі (усяго звыш 300 чалавек). У часе гэтага сходу адбыліся прамовы, якія заклікалі ўдзельнікаў сходу да супраціўлення загадам дзяржаўных органаў. Пасля прамоў сход разышоўся з клічам «Ура!» і «Далоў паліцыю і жандармерыю!», пры гэтым адзін з удзельнікаў сходу выстраліў з рэвальвера».**

**Нягледзячы на тое, што жандары жорстка расправіліся з удзельнікамі гэтага сходу (было арыштаваных і засуджаных на турэмнае зняволенне 23 чалавек, як сведчыць сам губернатар у гэтым жа данясенні), рабочы рух у Крынках не суцішыўся. 3 мая 1904 года начальнік Гродзенскай губерні сакрэтна данасіць жандарскаму ўпраўленню**

**«У мясцовасці Крынкі і Азяраны, Гродзенскага ўезду, ноччу з 17 на 18 красавіка (старога стылю — МГ)**

 

ЗОРКА
ДАДАТАК «НІВЫ» ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ
№ 3 (364) 17 студзеня 1965 года

# СПРЭЧКА

Заспрачалася завея
З ветрам ганарыста:
— Ты праехаць не здолееш
Па катку іскрыстым.
Адказаў ёй вецер дужы:
— Ды нашто сварыцца.
Пракаціся хаць па лужы,
Каб не паваліцца.
Набярэ разгон завея,
Тут жа паслізнецца.
Войкне вецер:
— Не умее...
Гучна засмяецца.
Як разгоніцца здалёку,
На лёд стане ледзьве,
Слізгане на першым кроку,
Доўга бокам едзе...

Анатоль Сербантовіч





# ТЭАТРЫК НА СЦЯНЕ





## ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

### ЗІМА Ў ЛЕСЕ

Ах, лес, лес
Што ты мне спяеш?
Я спяю табе,
паслухай,
Пра завею-завіруху.
Гэта песенькі — не байкі,
А лясныя самаграйкі,
Слухай іх, запамінай
І другім перадавай.

### ДУБОК

Я тут пастаўлю палачку —
Арэхавы кіёк.
Пад гэтай турбай снегу
Спіць мой гадок-дубок.

Вясной, як снег пад сонцам
Спаўзе на жаўтапёс, —
Прыйду к дубку, пабачу,
Хто болей з нас
падрос.

### НА САНКАХ

Гонка, гонка з горкі, з горкі
Санкі коцяцца мае.
Снег іскрыцца, снег смяецца,
Снег пад полазам пяе.

Гэй, мацней трымайся, дружа!
Вось дык лёт, вось дык лёт!
Трах-ба-бах! — ляцім з узгорка
І куляемся ў сумёт.

Устаю, гукаю сябру:
— Ты куды, браток, залез?
А навокал звонка - звонка
З нас смяецца зімні лес...

Кастусь Кірэенка



# ГУЛЬТАІ

П'еса ў адной дзеі

Дзеючыя асобы:

ІГАР,
ВАЛОДЗЯ — вучні чацвёртага класа.
МАЦІ Ігара.
СТАРАСТА 4-га класа.
ДЗВЕ ВУЧАНІЦЫ 4-га класа.

У пакоі стол, два крэслы, ложак. На стале ў збанку кветкі. На ложку спіць Ігар. Уваходзіць яго маці.

МАЦІ. Ігар, ты лёг спаць? А ўрокі?! Хутка ж у школу.

Маўчанне.

МАЦІ. Чуеш? Калі ўжо лёг, то хоць распраніся!

ІГАР (лянiва ўстае, пацягваецца, пазяхае). Э-эх! Ага, а потым зноў адзявайся?!

МАЦІ. Есці хочаш, сынок? Вазьмі яйка.

ІГАР. Не, не хачу... Ы-ы-ых, не дадуць чалавеку адпачыць!

МАЦІ (кладзе сынаў партфель на стол). Сядай за ўрокі. А палове другой табе трэба ісці на заняткі. Не спазніся. А я пабягу на работу. Вярнуся ўвечары.

ІГАР. Добра. Не спазнюся.

Маці выходзіць. Хлопчык зноў збіраецца легчы, але чуецца стук у дзверы. Уваходзіць Валодзя.

ВАЛОДЗЯ. Ігар, прывітанне! Дай спісаць задачу па арыфметыцы!

ІГАР (лянiва). А я за яе і не браўся!

ВАЛОДЗЯ. Ну, нічога. Мы яе зараз рашым. Даставай сшытак і падручнік.

Хлопчыкі сядаюць да стала: Ігар лянiва, сонна, а Валодзя жвава, безупынна балабонячы.

ВАЛОДЗЯ Што за марка ў цябе на стале?

ІГАР. Мама атрымала ліст і выразала... Абяцала ўклеіць мне ў альбом і не ўклеіла...

ВАЛОДЗЯ. То дай мне ! Я табе раскажу, з чаго робяць мыла!

ІГАР. З тлушчу!

ВАЛОДЗЯ. То скажу, чаму Гагарын касманаўтам стаў.

ІГАР (зацікаўлена). Ну, чаму?

ВАЛОДЗЯ. Бо быў адважным!

ІГАР. Я і сам ведаў. За гэта маркі не дам!

ВАЛОДЗЯ. Тады раскажу...

ІГАР. Нічога ты новага не раскажаш, манюка!

ВАЛОДЗЯ. Калі я табе хлусіў, калі?

ІГАР. Ты мне казаў, што бывае мароз у тысячу градусаў.

ВАЛОДЗЯ (ад здзіўлення ўцягвае ў сябе паветра). Ы-ы-ых, а ты думаеш, не бывае?!

ІГАР. Хлусі болей, хлусі!

ВАЛОДЗЯ. Думаеш, маню?

ІГАР. А як ты той мароз змераеш?

ВАЛОДЗЯ. Ведаеш, якія там градуснікі?

ІГАР (з цікавасцю). Якія?

ВАЛОДЗЯ (з запалам). Як... як тэлеграфныя слупы!

ІГАР. А-я-яй!

ВАЛОДЗЯ. Як заводскі комін!

ІГАР. О-го-о!

ВАЛОДЗЯ. А ты хацеў такі мароз змераць звычайным градуснікам?

ІГАР (з'едліва). Звычайным не змераеш...

Паўза.

ІГАР. (глядзіць на гадзіннік і войкае). Ой, ужо хутка ў школу. А я і сёння заданне па арыфметыцы не выканаў. Што рабіць?!

ВАЛОДЗЯ. Давай не пойдзем у школу!

ІГАР. Што ты?!

ВАЛОДЗЯ. Скажам, што хворыя былі!

 

Палеміка

# Споведзь

Я ў справе артыкула Уладзіміра Паўлючука — «Мары аб свеце адзіноцтва». Дарэчы, загаловак артыкула, як кажуць, «не прышыў — не прылатаў», адзіноцтвам называе ананімнасць. Паўлючукоў апанент, Віктар Рудчык, голасам Калумба выкрыкнуў: «А калектыў?»; другі дыскутант, Іван Чыквін, насучыў доўгі шнур усялякіх «ізмаў», а трэці — Уладзіслаў Дваракоўскі, скрытыкаваў у першую чаргу сам свой артыкул, называючы яго «Не туды дарога». Самакрытычная, шчырая назва Уладзіслававай напышліва - штучнай пісаніны (але хіба на ўласны ўжытак...).

У гэтым месцы хочацца закрычаць чорным па белым:

— Хлопцы! У каляіну пакацілася шчырасць! Станьце... ну, станьце!!

Рацый маем пад жэрдку, але шчырасць — адну. Падыміце яе! — просіцца Валодзя ў кожным радку свайго артыкула і, урэшце, махае рукою ды пачынае пятляць таксама пра разумныя рацыі разумнага Дзірхайма і інш.

Я лічу, што вартасцю палемічнага матэрыялу з'яўляецца яго шчырасць. Без шчырасці паледміка ператвараецца ў фарс «вучонасці» або «ідэйнай спеласці».

### РАСКАЖУ СВАЁ БЫЦЦЁ

Працаваў я ў цэнтралі арганізацыі X. Меў амбіцыю ўнесці ўласны, арыгінальны ўклад у разбудову арганізацыі X. З часам гэта амбіцыя сталася маёй idee fixe.

Цэлымі тыднямі прападаў, як кажуць, у тэрэне: ездзіў, хадзіў ад вёскі да вёскі, ад мястэчка да мястэчка. Ствараў арганізацыю, вязаў сувязі. Мая жонка з грудным дзіцём на руках цярпліва пераносіла сваё адзіноцтва, адзіноцтва ў чатырох сценах кватэры. Яна ніколі не папракнула мяне, верыла ў маю idee fixe, як у Бога.

На яве і ў сне я думаў і трызніў толькі аб арганізацыі X і яе справах. Арганізоўваў, планаваў, меркаваў, разважаў — словам, ствараў сам сабе малую вайну, дзе не было месца на думкі аб сям'і і асабістым жыцці. На фронціке гэтай вайны валок я падначаленыя мне інструктарскія кадры. Інструктары выкручваліся. Але я меў сваю тэорыю супрацоўніцтва з штатнымі працаўнікамі і актывам, якая генералізавала значэнне асабістага прыкладу, узору. Напрыклад, у Вольцы быў дагавораны арганізацыйны сход гуртка, а тут-як-тут разбушавалася снегавая завіруха. Інструктар запэўніваў мяне, што ў такую непагадзь не будуць нас спадзявацца ў Вольцы. Інструктар не пайшоў са мною ў Вольку, восем кіламетраў мяцеліцы ў чыстым полі. Ён дыпламатычна прыхварэў... Я верыў у сэнс адчайнасці ў працы арганізацыі X і ў гэтай адчайнасці бачыў перспектыву арганізацыі X.

Ішлі гады, і мая прыватная тэорыя асабістага ўзору ператварылася ў трагіка - камічны анахранізм надзелены прэрагатывамі ўлады. Кіраўнік цэнтралі арганізацыі X палохаў мною ляніватага інструктара... Роля харта мне не спадабалася!

І я пачаў «хітрыць». Перад усім, «ухітрыўся», што лёс арганізацыі X не залежыць ад яе кіраўніка, але ад актыву, працоўных (інструктараў). Маўляў, каму хорт, а каму дзеяч!

У лістападаўскую хлюпоту нарадзілася ў нас другое дзіця, але гэтыя нарадзіны давялі мяне толькі да злога настрою, бо давялося адкласці якіясьці там планы... Страта Часу!!! Нарэшце сарваўся я з увязі і пагнаўся прэч на цэлы тыдзень дзейнічаць. Свет выдаваўся толькі дадаткам да арганізацыі X.

Памятаю, марознай лютаўскай ноччу вярнуўся я дамоў, паціху ўсадзіў ключ у замок, адчыніў дзверы нашай тымчасовай кватэры- пакою і запаліў настольную лямпу з абажурам. Першае, што пачуў і ўбачыў, гэта слабы піск дзяцей — малютак і дзікія вугалькі вачэй паўпрытомнай жонкі. Прыціскала да сябе дзяцей, якія кусалі яе высахлыя грудзі. Яна трэці дзень была хворай, не магла падняцца з затхлай пасцелі — прабавала крычаць, але, відаць, ніхто не пачуў яе, не зайшоў падаць вады, клікнуць лекара, напаліць у печцы, дагледзець.

Назаўтра і паслязаўтра я адчуваў, што жонка як бы чакае, каб я прасіў яе прабачэння. За што?! Мяне гнявіла яе хвароба відавочная на маіх вачах: свае хваробы я не садзіў ёй пад нос, перажываў іх пад звалкаю кажухоў у хатах актывістаў. На яе вачах заўсёды быў здаровым!

Са злосцю правёў тэлефон на кватэру, паставіў яго каля тапчана, каб яна, жонка, сама магла клікаць лекараў, лячыцца — крычаць ратунку!

**Няхай жыве арганізацыя X! Наперад, урррра за арганізацыю X!!!**

Мая амбіцыя — маё адчуванне, што мая амбіцыя выгодная выгоднаму кіраўніку — вылілася ў своеасаблівы фанатызм: МАЯ арганізацыя X ужо ляцела ў небы, як анёлзбавіцель над натоўпамі зблуканых. Ёсць атэісты, ёсць каталікі, ёсць праваслаўныя, а я ёсць X-ам, прэтэндэнтам на апостала X-саў.

Пазней зразумеў, што фанатызму ўсюды адзінакава цана, усё роўна, які ён, гэты фанатызм — рэлігійны ці X-авы. Зразумеў, што раблюся смешным з усёй сваёю фанатычнай адчайнасцю і патрэбны я толькі, як выгодны інструмент у выгодных руках, якія надта не любяць лупіць параную бульбу на мужыцкіх вячэрах «у глыбокім тэрэне». Мае асабістыя прыклады ператварыліся ў інстытуцыі ганаровага, упартага выканаўцы, а аўтарытэт маёй асобы стаў надта падобным да дэкарацыйнай кветкі, якая аздабляла стол арганізацыйных нарад у цэнтралі.

Мая амбіцыя-змяя пачала грызці свой хвост, заядаць на смерць. А гэта ўжо годнае літасці, толькі літасці і нічога больш.

**Неяк...**

...узнікла ў мяне запытанне: хто каму? Арганізацыя X людзям, ці людзі арганізацыі X? Га? Усведаміўшы сабе сэнс такога запытання, я адчуў сябе... хуліганам, нахабнікам. Небяспечным маніякам! Кіраўнік цэнтралі глядзеў на мяне аслупянелымі вачыма бы на вар'ята — філосафа з Харошчы.

Так канчаецца адзін з раздзелаў майго жыцця, які можна назваць папулярным акрэсленнем: АМБІЦЫІ. Маё вяртанне да чалавечнасці нялёгкае, тым больш, што АМБІЦЫІ даюць выгодную выручку для...

Вяртаюся адзінокім.

Але ўжо бачу апошнюю вярсту гасцінца, людзей.

**А. АНТАШЭВІЧ**

# ПРЫ ДОБРЫМ ПАЧАСТУНКУ



Перад вайной польскі друк змясціў такую вось даволі характэрную гісторыю:

У адной з вёсак Палесся жыў сабе пан, які меў немалы кавалак лесу. Аднойчы ў летнюю пару трапілася пану аказія прадаць лес за добрыя грошы. Сяляне, аднак, заняты былі палявымі работамі і нават за параўнальна высокія грошы не згадзіліся ісці рэзаць пану лес. Пан быў не дурны, ведаў сялянскую псіхалогію. Сабраў у нядзелю людзей з вёскі і зрабіў ім добры пачастунак. Пасля пачастунку сяляне пайшлі і выразалі пану лес. Зразумела, што пачастунак каштаваў пана значна менш, чымсьці тое, што трэба было б заплаціць сялянам за работу.

Гэта гісторыя паказацца можа дзіўнай ці непраўдападобнай толькі чытачам малодшага пакалення. Старэйшыя маглі б прывесці многа падобных прыкладаў са свайго жыцця. Старэйшыя дасканала помняць розныя пачастункі, як дажынкі, малацьбу і г.д. Пачастунак такі быў багаты, але, каб заслужыць на яго, папрацаваць трэба было нямала.

Праўда, і зараз пасля супольнай працы не абыдзецца без пачастунку, трактуецца яго аднак як звычайны абед ці вячэру, якая зусім не звальняе гаспадароў ад заплаты за працу.

«Няма дурных, гавораць цяпер на вёсцы, працаваць цэлы дзень за кілішак гарэлкі».

Чаму аднак гадоў таму дваццаць, ці трыццаць былі ахвотныя дапамагаць без грошай, калі адзінай заплатай быў добры вясковы пачастунак?

Пачастунак гэты — астатак гэтак званай папулярна, эканамічна незалежнай гаспадаркі, у якой грошы адыгрывалі вельмі малую ролю. Гаспадарка такая на нашай вёсцы — не вельмі адлеглае мінулае. Яшчэ ў міжваенны перыяд у многіх вёсках грошы патрэбнымі былі на тое, каб заплаціць падатак і купіць солі. Усё іншае, або сам сабе выбляраў гаспадар, або выраблялі іншыя ў вёсцы. З гэтымі іншымі разлічвалася збожжам, яйкамі, бульбай, пазыкай каня і г.д. Найлепшай, аднак, і найпрыемнейшай формай разліку быў добры вясковы пачастунак.

І таму сёння, калі вёскі нашы штораз мацней уключаюцца ў кругаварот таварнай гаспадаркі, калі ўсё пералічваецца на грошы, няма «дурных» працаваць за пачастункі і няма «дурных» арганізаваць з абы якой нагоды гучныя пачастункі.

Зараз у вёсцы гінуць пачастункі як «рэванш» за дапамогу, і амаль занікаюць гучныя вяселлі для ўсяе вёскі. Не пасуе яна да сучаснага «стылю» жыцця, дзе асноўнай меркай вартасці з'яўляецца залатоўка.

**Рыгор Паўлюк**

# З НОВЫХ ГУТАРАК ЗЕМЛЯКОЎ

Да традыцыйных гутарак у доўгія зімовыя вечары аб страхах, жаніцьбах і гадоўлі свіней дайшла зараз новая тэма: тэлевізары, або, як іх некаторыя ў скарачэнні называюць, лівізары.

У сувязі з тым, што людазнаўцы не хутка, мабыць, гэтым зацікавяцца, спяшу папоўніць недахоп ведаў аб тэлевізійных размовах землякоў некалькі падслуханымі спрэчкамі.

* ⁕ *

— Ну, зусім пад старасць здурэў наш Максім, — гаворыць бабуля Феня з Беластоцкага павета. — Купіў сабе гэты самы лівізар, які цяпер увесь вечар рычыць, як кабыла на сцяне, купіў бы лепш кавалак зямлі, а то мусіць на работу ездзіць.

— Ой, каб вы ведалі, што ў нашай вёсцы цяпер, — расказвалі мне ў Гайнаўскім павеце. — То ж Мікалай Канцавы тэлевізар купіў. Як пазыходзіліся людзі з усяе вёскі — паўнютка хата, як на вяселлі. І навошта яму? Толькі бруду будзе заўсёды мець поўну хату, бо людзі спакою не дадуць.

Нягледзячы, аднак, на гэтыя і ім падобныя размовы жыхары нашых вёсак штораз часцей купляюць гэтыя чарадзейныя скрынкі — тэлевізары, якія адкрываюць акно на шырокі свет.

Часцей яшчэ, аднак, сяляне купляюць тэлевізар не самі ў адзіночку, а супольна — і стаўяць яго ў клубе, святліцы, ці школе.

Добравольна, напрыклад, ападаткаваліся на пакупку тэлевізара сяляне вёскі Арэхавічы, у Бельскім павеце.

— Найважнейшай у нас цяпер справай, — расказвае солтыс вёскі Махнатае, у Гайнаўскім павеце, — тэлевізар. Гэта значыць, хочам купіць тэлевізар і паставіць яго ў школе, дзе вечарам будзем маглі збірацца і аглядаць тэлевізійную праграму.

— А адкуль грошы на гэтую пакупку? — пытаю.

— На наш тэлевізар складаюцца ўсе па крысе: сельскагаспадарчы гурток, гурток ЗМВ, крыху маем вясковых грошай (прадалі невялікі кавалак вясковага корму для аднаго гаспадара), а што не хопіць, даложаць паасобныя гаспадары і будзем мець тэлевізар.

Потым солтыс з асалодаю пачаў расказваць, як абудуюць яны свой тэлевізар у скрынку, замкнуць на замок і вызначаць адказнага, які будзе мець права ўключаць і выключаць яго.

— Незадоўга, — гавораць жанчыны ў Махнатым, — пачнем жыць як у горадзе. Возьмеш мужыка пад руку і пайшла сабе што вечар на тэлевізар кінафільмы аглядаць.

(п)



## Будуць большыя надзелы

Як мы даведаліся, у гэтым годзе ПЗГС-ы і ГС-ы атрымаюць большыя надзелы цэменту, чарапіцы і прэфабрыкатаў для вясковага будаўніцтва. Апрача таго, Беласточчына атрымае значна больш штучных угнаенняў чым другія ваяводствы. Трэба спадзявацца, што ў гэтым годзе можна будзе купіць штучных угнаенняў лягчэй і хутчэй.

У многіх вясковых крамах можна будзе таксама купляць халадзільнікі, пыласосы, сціральныя машыны. Цяпер, каб купіць халадзільнік, трэба запісвацца ў чаргу.

(ся)

## БЕЗ НІЧЫЕЙ ЛАСКІ

Каб задаволіць патрэбы на прадукты ў гастраноміі ВЗГС «Самапомач Хлопска» пастанавіў заняцца арганізацыяй уласных гаспадарак велічынёю да 160 гектараў кожная. Такім чынам загаспадарана ўжо каля пяцісот гектараў аблогаў і створана пачаткі жывёлагадоўлі. У сучасны момант гэтыя гаспадаркі маюць ужо каля трохсот штук свіней і быдла.

(ся)



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## КАБ МЕНШ БЫЛО ВЫПАДКАЎ

У Тарнопалі 50 гаспадароў. Усе яны бралі ўдзел ў арганізаваных спецыяльных дарожных курсах, дзе вучыліся дарожных знакаў і правіл язды. Усе яны 20 снежня атрымалі пасведчанне са зданых экзаменаў.

**Славамір Садоўскі**
Тарнопаль

## Жанчыны на Гайнаўшчыне арганізуюцца

Аб тым, што жанчыны на Гайнаўшчыне арганізуюцца, пераканацца можна з простых лікаў: у 1959 годзе было ў Гайнаўскім павеце 18 гурткоў вясковых гаспадынь (КГВ), да якіх належала 217 членаў, а зараз тут 62 такія гурткі і 1024 членаў.

Арганізацыя КГВ на Гайнаўшчыне сарганізавала ў гэтым годзе для сваіх членаў 12 курсаў варэння і пячэння, некалькі курсаў кройкі і шыцця, курсаў здароўя, курс вырошчвання ільну і іншыя.

Апрача тато гурткі вясковых гаспадынь займаліся арганізаваннем сярод сваіх членаў рознага роду конкурсаў. Найбольш папулярным быў конкурс на найлепшы агарод з варывам, у якім прыняло ўдзел 216 асоб. Вялікая заслуга ў развіцці дзейнасці КГВ на Гайнаўшчыне маладой, энергічнай старшыні гэтай арганізацыі — Марысі Зялінскай. (п)

## Корму ўдоваль

Корму ўдоваль, а калі не ўдоваль, то ў кожным выпадку значна больш, чым у мінулых гадах, маюць у гэтым годзе сяляне з Махнатага, у Гайнаўскім павеце. Прычынілася да гэтага загаспадараванне 60 гектараў супольнага корму, на якім калісьці нічога не расло. Загаспадараванне адбылося пры дапамозе дзяржавы, прычым сяляне ўлажылі ўласнай працы грамадскім чынам на атульную суму 30 тысяч злотых. (п)

## Патрэбная траса

Дарога, якая вядзе з Ляшукоў у Сушчу, яшчэ да нядаўна была пясчанай. Цяпер яна ўжо адрамантаваная — жвіровая, абкопана равамі і абсаджана бярозкамі. Засталося зрабіць жвіроўку на дарозе, якая злучае Сушчу з Новай Воляй у Беластоцкім павеце. І як гэты адрэзак дарогі будзе зроблены, тады ПКС з Беластока праз Новую Волю і Ляшукі пойдзе ў Гайнаўку. А гэтая траса ПКС-у тут вельмі патрэбная. На яе чакаюць людзі многіх вёсак.

**Т. Харкевіч**
Ляшукі

## Лявоніха ў Крушынянах

Яшчэ ў час свайго першага знаходжання ў Крушынянах (Сакольшчына) эстрада Галоўнага праўлення БГКТ заваявала сэрца жыхароў нашай вёскі. І калі на пачатку снежня разышлася вестка, што 13 снежня прыедзе яна ў Крушыняны, нашы аднавяскоўцы і людзі з суседніх вёсак з нецярплівасцю чакалі дня яе выступлення. І вось надышоў той доўгачаканы дзень. Нягледзячы на тое, што паводле аб'явы «Лявоніха» мела прыехаць ў 17 гадзін, але ўжо у 13 гадзін мясцовая школа была запоўнена. Кожны зараня хацеў заняць лепшае месца, каб лепш чуць і бачыць беларускіх артыстаў з Беластока. З непрадугледжаных прычын «Лявоніха» спазнілася на 2 гадзіны і распачала канцэрт у 19 гадзін. Апладысментам і бісам не было канца. Усе захапляліся кожным нумарам «Лявоніхі». Аднак гэтую маніфестацыю ўдзячнасці замуціў маленькі інцыдэнт. Некалькі аматараў «чыстай», страціўшы надзею на прыезд «Лявоніхі», дазволілі сабе замнога выпіць гарэлкі і свае пачуцці радасці так моцна выражалі, што перашкаджалі артыстам выконваць сваю праграму. Ад імя ўсіх прысутных на канцэрце пішу я гэтыя словы і прашу прабачэння за гэта артыстаў «Лявоніхі». На гэты непрыемны факт, а хутчэй за ўсё, на гэтую дробязь, не звяртайце ўвагі і не забывайце аб Крушынянах.

**К. П.**
Крушыняны

## НАША БІБЛІЯТЭКА

У нашай школе ў Кабылянцы ёсць бібліятэка, якая налічвае 1800 экземпляраў кніжак. Чытачоў тут 120, якія даволі хутка прачытваюць атрыманыя творы. Характэрнай рысай нашай школьнай бібліятэкі з'яўляецца чысціня. Чысціня і парадак не толькі ў самай бібліятэцы, але і на кніжных полках. Кніжкі непабруджаны, прыгожа абложаны, так што прыемна браць іх у рукі.

**Ірэна Амброжэй**

## Заснула арганізаванасць...

Гэтак гавораць жыхары вёскі Рэпіска. Хлопцы і дзяўчаты, аб'яднаныя ў гуртку Саюза сялянскай моладзі, у мінулым годзе арганізавана вывучалі песні, спявалі, арганізавалі танцавальныя вечарыны. Зараз аб гэта ніхто не дбае. Хлопцы іграюць да паўночы ў карты і запіваюцца гарэлкай. А калі сарганізуюць танцавальную вечарыну, дык абавязкова паб'юцца. Проста сорамна за маладых юнакоў.

**А. В.**
Рэпіска

## Перабудоўваецца маставая

Праз вёску Праневічы праходзіць шаша, якая злучае Бельск з Беластокам. Вуліца - шаша была тут вузкаватая, а брук быў стары, выбоісты. Пачынаючы ад восені тут дарожны аддзел распачаў перабудову мастаавой. Яна значна пашыраная і ўкладаюцца тут «кравэнжнікі». Гэта значна ўпрыгожыць вёску.

**Лёня Леанюк**
Плёскі

## ЗІМОВАЯ МОДА



Як бачыце на здымках, вельмі модныя ў гэтым годзе абшытыя футрам паліто. (na)

## Сардэчныя тайны

### Непатрэбная трагедыя

У «Ніве» ад 27 снежня 1964 г. я прачытаў пісьмо Толіка з Гайнаўскага павета, які праз сваю наіўнасць знайшоўся ў «сляпой вуліцы», з якой не бачыць выхаду. Мне здаецца, што Толік у сваім пісьме не гаворыць праўды, якой, відаць, баіцца, а якая неабходна, каб даць яму параду.

Ён піша: «Прыемна ў веснавы суботні вечар правесці час над рэчкаю ў сяброўстве дзяўчат і хлопцаў сваёй вёскі. Памарыць аб усім, пагутарыць з дзяўчынай, якая мілая сэрцу». І менавіта гэтыя словы даюць поўны вобраз аб Толіку, паказваюць яго адносіны да сяброўства, якому неабыякавыя прыгажуні. У адзін з такіх вечароў Толік знаёміцца з прыгожай чарнавокай Кацяй, якую адразу пакахаў. Гуляюць цэлы вечар разам, потым Толік праводзіць яе дамоў (бо Каця згаджаецца, каб яе адвёў) і ідучы ў вёску (паўтара кіламетра) Каця намаўляе яго на тое, што з'яўляецца ягонаю трагедыяй. І тут бачым, што Толік хлусіць, бо дзяўчына, якая мае намер намовіць хлопца, гаворыць проста «ідзем», а Толіку Каця спадабалася і ён яе вельмі просіць, каб адвесці дамоў. І Каця згаджаецца. Чарнавокая прыгажуня не намаўляе хлопца, бо і так маючы 18 год мае поспех і гэтакім спосабам не будзе лавіць сабе мужа, а сапраўдны мужчына, які пакахаў дзяўчыну і яна блізкая яго сэрцу, не намовіць, ведаючы, што гэтым траціць гонар дзяўчыны, на якой яму залежыць. Паабяцалі сустракацца. Толік хутка выязджае, але гэтае «хутка» магло працягвацца месяц, а нават і больш. Толік напэўна закінаўся ў каханні, што ажэніцца з Кацяй, і яна паверыла яму. Не веру, каб Каця не пісала ў пісьме аб тым, што цяжарная. Напэўна напісала. Толік лічыў, што калі пройдзе паўгода, ён прыедзе і ўбачыць Кацю ў іншым выглядзе, будзе меў тлумачэнне, што цяжарнасць пачалася раней яго знаёмства. Цяпер Толік круціць, што не яго дзіця.

Дзяўчына лёгкіх паводзін, якая нават сама намаўляе хлопца, не будзе наракаць на свой лёс, як Каця. На мой погляд, Толік не кахаў і не кахае Каці, гэта відаць з яго лісту, ён не давярае ёй, а разносіць гэтую справу. А шчасце не так здабываецца. І на маю думку, тут найлепш і найхутчэй разбярэцца лекар. А калі Толік не вінаваты, дык не павінен так трагізаваць гэтую справу, ён мог бы спакойна спаць у ночы, няхай Каця клапоціцца. Аднак так не ёсць. Яго грызе сумленне, ён не можа спаць спакойна, хоча якасьці выкруціцца і скінуць віну на дзяўчыну. А Толіку засталося выпіць гэтае піва, якое ён сам згатаваў сабе.

**Валодзя з Беластоцкага пав.**

---

а гэта значыць: у штабе яго цяпер няма. Ноччу немцы спяць.

Вартаўнік маўчаў — відавочна, думаў, што рабіць.

— Выклічце начальніка варты, — падказаў яму Дзяменцяў.

— Адну хвілінку! — Вартаўнік падыйшоў да дзвярэй і націснуў гузік.

Прайшло мінут пяць, пакуль з'явіўся заспаны фельдфебель.

— Што тут здарылася?

— Афіцэр восьмай дывізіі — да палкоўніка Гешке! — далажыў вартаўнік.

Фельдфебель наблізіўся да Дзяменцява і ўгледзеўся ў яго твар.

— Адкуль гэта вы зваліліся? — насмешліва спытаў ён.

— Я прасіў бы гаварыць са мной, як належыцца гаварыць фельдфебелю з капітанам! — сказаў Дзяменцяў.

Фельдфебель накіраваўся да дзвярэй.

— Хадзіце са мной...

Яны ўвайшлі ў ярка асветлены вестыбюль.

— Цяпер пятая гадзіна. Відавочна, палкоўнік Гешке вас не чакаў? — не без яхідства спытаў фельдфебель.

— Вайна... вайна, — рассеяна сказаў Дзяменцяў. — Але я не спаў зусім. У вас ёсць атэль для афіцэраў з фронта?

— Ёсць.

— Дайце мне туды скіраванне або пазваніце.

— Гэта можна... — Фельдфебель узяў тэлефонную трубку, але тут жа яе палажыў. — Дайце ваш дакумент...

— Цяпер я ведаю, навошта нам выдаюць пасведчанні. На фронце іх чамусьці не пытаюць... — Усміхаючыся, Дзяменцяў падаў чорную кніжачку.

11

Фельдфебель сур'ёзна, не спяшаючы, глядзеў пасведчанне. Яго, відавочна, кранула насмешка Дзяменцява і ён, як гэта любяць рабіць штабныя ваякі, вырашыў паказаць палявіку, што тут яму не бункер пасярод поля, тут для ўсіх законы свае.

— Колькі часу вы, капітан, прабудзеце ў горадзе?

— Не ведаю, — змучана адказаў Дзяменцяў, а сам напружыўся.

— Калі звыш сутак, то вам заўтра трэба зайсці ў камендатуру. На вашым пасведчанні паставяць спецыяльны штамп. Такі парадак...

На душы ў Дзяменцява адлягло, і ён вырашыў падыграць фельдфебелю ў яго штабной заносчывасці.

— Адкуль я магу ведаць, на які тэрмін мяне выклікалі? Хто я такі? Генерал? Скажуць у вашым штабе — назад, толькі і мяне бачыў ваш горад.

— Загад ёсць загад... — згадзіўся фельдфебель і зноў узяў тэлефонную трубку. — Гаворыць дзяжурны камендант аб'екта нумар тры. У вас ёсць месца?.. Вельмі добра. Зараз да вас прыдзе... Запішыце: капітан Пауль Рукерт... Дзякую... — фельдфебель палажыў трубку. — Вы горад ведаеце?

— Я тут усяго другі раз.

— Атэль мінут дзесяць адсюль.

— Можа ў вас ёсць дзяжурная машына?

— Не. Яна дзяжурыць толькі да трэцяй ночы.

— За гадзіну не дойдзеш да вашага атэля. Дык на кожным вуглу — патрулі.

Фельдфебель напісаў нешта на паперцы і працягнуў Дзяменцяву. Дзяменцяў хацеў паперку ўзяць, але фельдфебель не дазволіў:

— Прачытайце і запамятайце.

— Дзякую, — запамятаўшы пароль, сказаў Дзяменцяў, цяжка падняўся, пажадаў фельдфебелю добрай ночы і пайшоў.

(Працяг за тыдзень)

12

---

## КІНО

**Праграма на 19 — 24.I.1965. г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Chwila wspomnień" (pol.), 19. „O czymś innym" (czeski), 20—21. „Hatifa" (NRD), 22—24.

**Кляшчэлі**

„Ciao, ciao, bambino" (włoski), 19—21. „Wolne miasto" (polski), 22—24.

**Дубіны**

„Echo" (polski), 23—24.

**Нараў**

„Biedna ulica" (bułg.), 20—24.

**Нараўка**

„Przeżyłem swoją śmierć" (czeski), 20—24.

**Чаромуха**

„Patria o muerte" (polski), 19—21. „Samotność długodystansowca" (angl), 22—24.

**Чыжы**

„Wilczy bilet" (polski), 20—24.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Serca trzech dziewcząt" (NRF), 20—24.

**Бранск**

„Handlarz opium" (chiński), 19—21. „Upał" (polski), 22—24.

**Орля**

„Życie Adolfa Hitlera" (NRF), 20—24.

**Райск**

„Sędzia dla nieletnich" (NRF), 20—24.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„W pogoni za meteorytem" (czeski), 19—21. „Teresa Desgueroux" (franc.), 22—24.

**Міхалова**

„General della Rovere" (włoski), 19—21. „Spotkanie ze szpiegiem" (polski), 22—24.

**Чорна Беластоцкая**

„Dwa złote colty" (USA), 19—20. „Syn marnotrawny" (włoski), 21—22. „Prawo i pięść" (polski), 23—24.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Мельнік**

„Wszystko dla psów" (angl.), 19—21. „Wyrok na Vc" (jugosł.), 22—24.

**Нурэц**

„Generał della Rovere" (włoski), 19—21. „Miłość Aloszy" (radziecki), 22—24.

**Мілейчыцы**

„Chwila wspomnień" (pol.), 19. „Hindukusz" (polski), 20—21. „Rzut karny" (radz.), 22—24.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Chwila wspomnień" (pol.), 19. „Ptaszyna" (wietnamski), 20—21. „Więzy krwi" (radz.), 22—24.

**Сухаволя**

„Chwila wspomnień" (pol.), 19. „Dylemat" (duński), 20—21. „Wiano" (polski), 22—24.

**Шудзялава**

„Zabawa na sto dwa" (angl.), 20—24.

**Янаў**

„Chwila wspomnień" (pol.), 19. „Symfonia Leningradzka" (radziecki), 20—24.

**Сідра**

„Chwila wspomnień" (pol.), 19. „Ali i wielbłąd" II s. (angl.), 20—21. „Czarny żwir" (NRF), 22—24.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Ліпск**

„Druga młodość cioci" (węg.) 20—24.

**Новы Двор**

„Ogniomistrz Kaleń" (polski), 20—24.

**Ружанысток**

„Miłość i gniew" (angl.), 19—20. „Kartosze zbójca" (franc.), 21—22. „Królewskie dzieci" (NRD), 23—24.

